Газета для вас



Свидетельство № 26578, выданное решением Витебского облисполкома №605 от 30 декабря 1996 года.




ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

№ 11(222) 18—24 сакавіка 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.

## Зорны час юніёраў

**БЯРОЗА.** У нямецкім горадзе Мюнхене, дзе праходзіў чэмпіянат Еўропы па кулявой стральбе, беларускія спартсменкі святкавалі перамогу. Выхаванцы трэнера Святланы Іскандаравай з Белаазёрскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы сёстры Кацярына і Дар'я Галабурды сумесна з мінчанкай Вікторыяй Чайка ў камандным заліку сталі мацнейшымі ў практыкаванні ПП-2. Стралялі дзяўчаты практычна без промаху і гэта ў многім вырашыла лёс залатога медаля. Да гэтай высокай узнагароды Дар'я Галабурда дабавіла бронзавы медаль: у асабістым заліку яна заняла трэцяе месца.

Яшчэ адзін прадстаўнік Белаазёрска Аляксандр Дземідовіч і брэстаўчанін Андрэй Філанюк выступілі ў юніёрскай камандзе, якая стала трэцім прызёрам спаборніцтваў у практыкаванні ПП-3. Юнацкі дуэт заваяваў бронзавы медаль.

*Алесь САШЫН.*

## Дыр много — заплат мало

**БАРАНОВИЧИ.** В конце февраля финансовый отдел горисполкома давал своеобразное интервью всем средствам массовой информации города. В. И. Дичковский, зав. финотделом, отвечал на вопросы журналистов и таким образом выяснилось, например... Оказывается, в скудном городском бюджете нашлись средства на восстановление так называемой дачи Ставровской (бывшего первого секретаря горкома партии), которая была построена еще в 50-ые годы, а сейчас там планируется сделать загородную гостиницу.

Конкретная сумма, которая ушла на ремонт здания мэрии, так и не была названа, сказали лишь, что она была меньшей, чем, к примеру, на реконструкцию городского загса. Его приведение в евровид обошлось бюджету в 50,8 миллиарда "старых" рублей.

Заведующий финотделом опровергнул слухи о том, что новогодний фуршет для работников исполкома обошелся бюджету в 1 млрд. рублей. Праздновали, дескать, за свои.

На пресс-конференции поднимались и многие другие вопросы, ответить на которые можно так: дыр много — заплат мало.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Абы ціха было?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Наша газета некалькі разоў пісала аб тым, што ў снежні 1998 года мясцовыя рабаўнікі абламалі частку металічнай агароджы гарадскіх могілак у райцэнтры. Зладзеяў затрымаў і даставіў у райаддзел міліцыі яе супрацоўнік. Была ўзбуджана крымінальная справа. Але Івацэвіцкая пракуратура чамусьці "памілавала" зладзеяў і закрыла гэтую справу.

Пасля чарговай публікацыі ў нашай газеце па гэтым пытанні пракуратура адаслала заведзеную справу на дакследаванне. Чым жа яно скончылася? А нічым. Маўляў, не знайшлі даведку, колькі ж каштуе металічная агароджа. Ізноў справу прыкрылі і ўжо, як кажуць, назаўсёды.

Камунальнікі не дачакаліся ад "блюстителей" законаў дапамогі ў аднаўленні агароджы гарадскіх могілак. Тыя ражны, што яшчэ засталіся тырчаць над агароджай, камунальнікі самі абламалі, каб не псаваць агульны выгляд.

Такім чынам, злодзеі на свабодзе. Агароджы няма. А закон? Атрымліваецца, што ён нібы дышаль... Абы ціха было?

*Канстанцін ДЗЯМЧУК.*



*Веснавое абуджэнне.*
*Фотаэцюд Аляксея ГАНЧУКА.*

## ЗНОЎ ШТАБЫ. ЯК НА ВАЙНЕ

Надышла вясна, і мясцовыя ўлады пасвойму рыхтуюцца да пасяўной кампаніі. Па савецкай традыцыі ствараюцца штабы, якія будуць ажыццяўляць кантроль за ходам палявых работ. Складваецца ўражанне, што ў калгасах і саўгасах на ўсіх пасадах няма спецыялістаў, якія арганізоўвалі б і кантралявалі сяўбу збожжавых і кармавых культур.

У Івацэвічах, напрыклад, створана пяць такіх штабоў, кожны з якіх узначальвае раённы вертыкальшчык. Нават і далёкі ад сельскай гаспадаркі. Задзейнічаны таксама ў дапамогу гаспадаркам прамысловыя прадпрыемствы.

У Пружанах таксама праводзяць пэўную работу па падрыхтоўцы да вясны. Ужо дакладна вядома, што створаны два мехатрады па падрыхтоўцы глебы пры раённым аб'яднанні "Сельгасхімія" і райаграпрамзабеспячэнні.

Стварыць штабы — справа не складаная. Толькі ў карысці іх многія сумняваюцца.

*Іван ЯНОВІЧ.*

## Паказуха дзеля начальнікаў

**ПРУЖАНЫ.** Выязная нарада, праведзеная тут рэспубліканскім штабам па падрыхтоўцы і правядзенню веснавой сяўбы, сабрала салідную кампанію: былога першага намесніка прэм'ер-міністра краіны В. Далгалёва, міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Ю. Мароза, міністра фінансаў М. Корбута, кіраўнікоў аблвыканкама і райвыканкамаў, аблсельгасхарчу і райсельгасхарчаў.

Рыхтуючыся да гэтага мерапрыемства, горад пачысцілі, пабялілі, на вуліцах навялі парадак. Вакол райвыканкама то там, то тут мільгалі знаёмыя супрацоўнікі міліцыі, пераапранутыя ў цывільнае.

Наогул жа горад хацелася б бачыць заўсёды чыстым і прыбраным, нягледзячы на тое, прыедзе сюды высокае начальства ці не. Надакучыла бачыць, як кладуць асфальт усяго толькі на тры дні. Глядзець, з якім шыкам раз'язджаюць мясцовыя чыноўнікі.

*Яўген ВАЛЮКЕВІЧ.*

## Дверца в наше сердце

**БАРАНОВИЧИ.** В высшем педагогическом колледже прошла встреча с редакцией культурно-религиозного журнала "Диалог", который выходит под крышей католического костела Матери Божьей Фатимской. По сути своей журнал экуменичен, это значит, что на его страницах публикуются материалы и о православии, протестантизме, баптистах и прочих религиозных течениях.

Настоятель прихода Матери Божьей Фатимской, он же духовник журнала, отец Ян Глинка поведал будущим педагогам, что вера и жизнь должны составлять одно целое, как это и было раньше. Он рассказал, как будучи в Америке, посетил родео — мирское зрелище, но перед его началом ведущий предложил всем встать и помолиться.

Агитации именно за свою веру не было, был разговор о себе, о времени, о душе.

Редактор журнала Татьяна Шимкович рассказала о рубриках, планах на будущее и шестилетнем прошлом редактируемого ею издания.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Халатнасць падвяла

**ПРУЖАНЫ.** Так можна сказаць пра вартаўніка на будоўлі, якую вядзе ў вёсцы Плебанцы ПМК-53. У бытавым вагончыку, дзе неахайна паліў печку мужчына, здарылася загаранне. Дзякуючы пажарнікам, якія прыехалі літаральна праз некалькі хвілін, узніклы пажар удалося хутка патушыць. Матэрыяльныя страты, праўда, нанесены вялікія, а магло ўсё закончыцца і трагедыяй.

Гэта не першае загаранне ў раёне па віне саміх апальшчыкаў, якія грэбуюць элементарнымі правіламі пажарнай бяспекі. Іх ужо сёлета здарылася каля дзесятка. Былі і ахвяры. Але ж памылкі паўтараюцца. Шкада.

*Мікалай КАЗЛОЎСКІ, старшы супрацоўнік ФЦА ПБ Пружанскага раёна.*

## НАША АРМИЯ БОЛЬНА, НЕ СПОСОБНА МИР ХРАНИТЬ ОНА

**БАРАНОВИЧИ.** В одной из воинских частей проводится анкетирование молодого пополнения. В январе 2000 года к ним пришли 26 солдат. Картина, всплывшая после проведения анкетирования, довольно-таки унылая. Посудите сами. Только 3 из 26 имеют высшее образование, у 5 — неполное среднее.

Еще с 1917 года Красная Армия считалась рабоче-крестьянской. Такова она и поныне. 61,5 % солдат — выходцы из рабочих семей. Точно такой же процент и верующих. Только один солдат не крещеный и один член секты.

До призыва в армию большинство парней работало, двое занимались мелким бизнесом. Но только один имеет заграничный паспорт и был за границей. Иностранными языками владеют пятеро.

18 солдат или 69,2% курят, у 17 — хронические заболевания: сколиоз, миопия, гастрит. У двоих — дефицит массы тела!

Но самыми интересными, пожалуй, являются вопросы, касающиеся жизненной ориентации молодых людей. Так, служить с желанием пришли только 7, без желания — 12, а семи и вовсе все безразлично. По возможности уклонились бы от службы в армии 15 человек, 11 не стали бы этого делать. У 6 парней представления о службе совпадают с реальным положением дел. Думали, что будет лучше, трое, а пятеро представляли, что служить будет хуже. То, что 73,1% солдат довольны своим местом службы, делает честь части. Качество питания половину солдат устраивает, а вот другую — нет.

Вызывает тревогу и беспокойство то, что у четверых возникают в трудную минуту мысли о самоубийстве, еще у 9 часто жизнь теряет смысл.

И уж совсем неожиданными оказались ответы на вопрос: "Что необходимо для успеха в жизни?" Только 9 во главу угла поставили деньги, 12 человек считают, что для успеха в жизни нужно хорошее образование. но больше всех посчитали, что для этого нужна хорошая семья.

Жизненный идеал есть только у одного солдата, остальные строят свою жизнь по собственному усмотрению.

*Галина СТРОЦКАЯ,*



## Пасмяёмся разам з...

карэспандэнтам газеты "Раённыя будні" (Пружаны) Галінай Калядой:

Прыехала Анка з Парыжа.
У яе цікавяцца ўражаннямі.
— Здаецца, я там выклікала сапраўдны фужэр.
— Не фужэр, а фураж, — паправіў яе Пецька.



## Шаноўныя чытачы!

25 сакавіка заканчваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 2000 года. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Брэсцкай вобласці. Застаўцеся з незалежнай "Газетай для вас"! **КОШТ ПАДПІСКІ: індывідуальнай** (індэкс 63834): на адзін месяц — 190 рублёў, на квартал — 570 руб.; **ведамаснай** (індэкс 64145): на адзін месяц — 800 рублёў, на квартал — 2.400 руб.

● ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Парламент пагадзіўся з кандыдатурай У. Ярмошына

***14 сакавіка кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка прадставіў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі выконваючага абавязкі прэм'ер-міністра краіны Уладзіміра Ярмошына для зацвярджэння ў якасці кіраўніка ўрада.***

Кіраўнік беларускай дзяржавы нагадаў дэпутатам, што перад тым, як прыняць рашэнне аб прызначэнні У. Ярмошына выконваючым абавязкі прэм'ера, ён параіўся з вышэйшымі службовымі асобамі краіны. "Гэта не валюнтарысцкае рашэнне кіраўніка дзяржавы, хаця гэта ўваходзіць у маю кампетэнцыю", — сказаў А. Лукашэнка. Ён падкрэсліў таксама, што новы ўрад будзе праводзіць той стратэгічны эканамічны курс, які вызначаны і праводзіцца ў краіне на працягу апошніх некалькіх гадоў. "Стратэгічны курс, — сказаў ён, — абраны правільны і мяняць яго нельга".

Члены Палаты прадстаўнікоў на 10-й нечарговай сесіі амаль аднадушна далі згоду прэзідэнту на прызначэнне былога мэра Мінска Уладзіміра Ярмошына кіраўніком беларускага ўрада.

14 сакавіка Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прызначэнні прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ярмошына, які дагэтуль выконваў абавязкі кіраўніка ўрада.

## Школьнікаў будзе менш

***На 30 працэнтаў, у параўнанні з 1999 годам, паменшыцца колькасць школьнікаў у Брэсцкай вобласці да 2004 года.***

Такія прагнозы прагучалі 13 сакавіка на пасяджэнні Брэсцкага аблвыканкама, дзе абмяркоўваліся праблемы развіцця сістэмы адукацыі і ход рэформы школы.

Як было адзначана, за 20 апошніх гадоў колькасць школьнікаў зменшылася ў 2,7 раза, а колькасць школ на сяле з 890 знізілася да 621. Закрываецца школы будуць і надалей, паколькі ў вёсцы дэмаграфічная сітуацыя складваецца найгоршым чынам і сёння ў вобласці ёсць пачатковыя школы, куды ходзяць па некалькі чалавек.

Галоўны санітарны ўрач вобласці Валянціна Качан агучыла сумныя лічбы адносна здароўя школьнікаў. Насамрэч, кожнае чацвёртае дзіця прыходзіць у школу з некаторымі адхіленнямі ў здароўі, а кожны другі выпускнік пакідае школу з пэўным дыягназам.

Што да праводзімай рэформы школы, было адзначана, што настаўнікі Брэстчыны з ёй спраўляюцца. Усе заўвагі і прапановы, выказаныя на пасяджэнні, былі занатаваны віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным, які знаходзіўся ў Брэсце з рабочым візітам.

## Эканамічны крок ЗША

***Злучаныя Штаты маюць намер прыпыніць дзейнасць агульнай сістэмы гандлёвых прэферэнцый у адносінах да Беларусі, калі ў бліжэйшыя некалькі тыдняў у краіне не адбудзецца зменаў.***

Пра гэта абвясціў 14 сакавіка адмысловы дарадца дзяржсакратара ЗША па пытаннях новых незалежных дзяржаў Рос Уілсан на прэс-канферэнцыі ў Мінску па выніках свайго двудзённага візіту ў Беларусь. Такі крок будзе азначаць пагаршэнне ўмоў для беларускага экспарту ў ЗША.

Сп. Уілсан растлумачыў, што да разгляду гэтага пытання ўлады Злучаных Штатаў звярнуліся ў сувязі са складанай сітуацыяй у сферы правоў працоўных у Беларусі. "Але больш шырокая праблема ў тым, што агульная сістэма прэферэнцый была разлічана на падтрымку палітычных і эканамічных рэформаў у Беларусі, якія, аднак, не адбываюцца", — заявіў амерыканскі дыпламат.

## Новы кіраўнік вобласці

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь вызвалены ад пасады старшыні Брэсцкага аблвыканкама У. А. Заламай у сувязі з выхадам у адстаўку.

Старшынёй Брэсцкага аблвыканкама прызначаны Васіль Барысавіч Далгалёў, які раней працаваў першым намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

## Перападпарадкаванне сістэмы грамадзянскай абароны

***Сёлета ў першым паўгоддзі сістэма грамадзянскай абароны (ГА) будзе перададзена з падпарадкавання Міністэрства ўнутраных спраў у падпарадкаванне Міністэрству па надзвычайных сітуацыях Беларусі.***

Пра гэта паведаміў Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 14 сакавіка. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, рашэнне аб перападпарадкаванні сістэмы ГА ўжо прынята. Такі захад, лічыць А. Лукашэнка, дазволіць узмацніць Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

***(БелаПАН).***

● ПРАШУ СЛОВА

## Злазь з даху, не псуй гонты

Чым больш правіць існуючы рэжым, тым больш грамадскасць упэўніваецца ў яго неперспектыўнасці: расце інфляцыя, эканоміка стаіць на месцы, сельская гаспадарка даведзена да жабрацкага стану, узровень жыцця падае з кожным месяцам. Рабочы люд засмоктвае багна апатыі і п'янства. А з экрана нацыянальнага тэлебачання, са старонак дзяржаўных газет і перадач радыё льецца лагодная і прыемная інфармацыя аб дасягненнях ва ўсіх галінах вытворчасці, ухваляецца кіраўнік дзяржавы, які, маўляў, робіць усё магчымае для пабудовы дэмакратычнай дзяржавы. Памятаецца, у час выбарчай кампаніі А. Лукашэнка абяцаў разабрацца з усімі карупцыянерамі, у час прыняцця прысягі, паклаўшы руку на Канстытуцыю 1994 года, перад бел-чырвона-белым сцягам і народам кляўся служыць сваім суайчыннікам, запэўніваў грамадскасць у тым, што ў выпадку невыканання сваіх абавязкаў па волі народа перадасць паўнамоцтвы больш дастойнаму чалавеку. Ішлі гады, а словы заставаліся словамі. На практыцы прэзідэнт фармаваў моцную ўладу, ствараючы вертыкаль і гоняючы прэч ад сябе "няўгодных". Гэта дало пэўныя вынікі: Беларусь, мабыць, адзіная краіна, дзе міліцыі больш, чым войска. Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, у якой 10 мільёнаў насельніцтва і налічваецца ўжо 25 тысяч дзяцей-сірот. Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе на душу насельніцтва прыпадае найбольш ворных зямель, а яна самая бедная. Прыклады можна прыводзіць бясконца.

Скажаце, прыкладаў настрыгчы можна ўсялякіх, а дзе выйсце? Безвыходных сітуацый не існуе. Па якой дарозе нам выйсці да шчаслівага будучага? Хто яе пакажа? Спадзявацца на прэзідэнта няма сэнсу, бо яго прапанoўваемы шлях прывядзе да таго, што знікне не толькі краіна, але і нацыя. Жыццё паказвае: ідзе бессаромная здача рэспублікі суседняй дзяржаве. "Мы не зможам жыць без Расіі" — чысцейшай вады папулізм. Нaконт сяброўства беларусы былі і застануцца дружалюбнымі для ўсіх сваіх суседзяў. Для гэтага неабавязкова ствараць адзіную дзяржаву ў выглядзе суверэнных рэспублік. Мы ўжо жылі ў такой дзяржаве і ведаем, што суверэнітэт існаваў толькі на паперы. Што тычыцца энерганосьбітаў і карысных выкапняў, то гэта, прабачце, ужо эканоміка, якой павінны займацца кампетэнтныя спецыялісты, галоўная мэта якіх — уменне выпускаць канкурэнтназдольную прадукцыю і выгадна яе рэалізоўваць, у абмен на тое, чаго не хапае. Эканамічныя адносіны з той жа Расіяй павінны існаваць абавязкова. Але гэта не значыць, што трэба аддаваць у чужыя рукі прадпрыемствы і аб'ядноўваць міністэрствы. Калі не ўмееш весці эканоміку з выгодай для ўласнага народа, то, як казаў калісьці мой дзед, злазь з даху і не псуй гонты. Наша сістэма кіравання краінай зводзіцца да ўзроўню выхавання дзяцей у дзіцячым садку: збяруць усіх дарослых дзецюкоў, дадуць на расійска-паляшуцкім дыялекце вусных вымоў з пагрозай звальнення і адлусцяць дамоў. Прынцып кіравання адзін — хоць дрэнны, затое свой. Такое палітычнае свавядства ўшчэнт разбурыла грамадства. Такое палітычнае свавядства пасяляе ў людзей страх і недавер. Здаецца, няма сэнсу ўжо змагацца за справядлівасць. Але чытаеш незалежную прэсу і разумееш: ёсць яшчэ сілы, якія ніколі не скорацца перад дыктатарскім рэжымам. На вясну запланавана шэраг палітычных акцый, у тым ліку з'явілася ідэя правядзення Усебеларускага з'езда. Вельмі своечасовая ідэя. Сапраўды, мы павінны заявіць усяму свету, што ў Беларусі ёсць не якая-небудзь купка апазіцыянераў, а народ, які хоча сваёй незалежнасці. Лічу вельмі важным той момант, каб на з'езд трапілі прадстаўнікі ад усіх рэгіёнаў і самых розных сфер вытворчасці. Няхай кіраўнік дзяржавы ўпэўніцца, што жадаючых жыць у вольнай і шчаслівай Беларусі не сотні і тысячы, а сотні тысяч, а можа і болей. Падтрымаць акцыі ці ўдзельнічаць у іх — гонар за сваю Бацькаўшчыну, гонар беларуса.

***Алесь МІХАЙЛОЎСКІ.***
***г. Пружаны.***

● КРЫМІНАЛ

## ЯК МАЦІ СЫНКА ХАВАЛА

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ужо сёння няма ніякага сакрэту, чаму ж у нас крадуць. Пры савецкай уладзе па афіцыйнай статыстыцы раскрадвалася 25 працэнтаў народнага дабра. А зараз становішча яшчэ пагоршылася. Жыццё ў нас не салодкае, для аматараў лёгкай нажывы спрыяльнае.

Ураджэнец вёскі Магіліцы, як прызнаваўся сам потым, прыехаў у госці да маці. Жонку кінуў, што жыве на Вольцы, і пачаў валачыцца па свеце.

Ноччу з 11 на 12 сакавіка ў Івацэвіцкі райаддзел міліцыі паступіў сігнал, што ў вёсцы Волька абакрадзены магазін-ларок. Аператыўная група на чале з начальнікам аддзялення крымінальнага вышуку А. І. Глушнем неадкладна выехала на месца. Аднак ноччу слядоў злодзея знайсці не ўдалося. Па ўсім відаць, дзейнічаў у пальчатках.

Пошукі злодзея працягваліся ранкам 12 сакавіка. У сялянскім двары, што паблізу магазіна, дзе стаяў невялікі аўтобус, знайшлі скрынку піва, некалькі бутэлек гарэлкі і вады, цукеркі ў кашолцы. І самае галоўнае завадную ручку ад аўтобуса. Менавіта на ёй засталіся сляды, калі злодзей арудаваў у тым магазіне.

Засталося знайсці злодзея. Як падказалі мясцовыя жыхары, у вёсцы паявіўся незнаёмы чалавек. Не складала вялікіх цяжкасцей, каб вылічыць, да каго ён наведаўся.

Жыхарка Магіліц К., да якой завіталі ў хату аператыўнікі, на поўным сур'ёзе сказала, што сын да яе не прыязджаў, і яна даўно не бачыла яго ў вочы. Клялася, бажылася. Але вопытнае вока аператыўнікаў заўважыла, што гаспадыня дома нешта круціць хвастом. Пры беглым аглядзе пакоя, знайшоўся і сам злодзей. Ён сядзеў у шафе за бялізнай і чакаў, што будзе далей. І дачакаўся.

А з магазіна ў тую ноч, акрамя гарэлкі, віна, піва, кансерваў, цукерак, каўбасы, знікла яшчэ і сумка з грашыма, у якой было 70 тысяч рублёў (у новых цэнах).

У той жа дзень 12 сакавіка высветлілася, што прыезджы злодзей абакраў Волькаўскі сельскі клуб, дзе забраў магнітафон і іншыя музычныя інструменты. Ён жа забраўся на ферму калгаса "Іскра" і сцягнуў там радыёстанцыю.

Вось так за адзін дзень былі раскрыты адразу тры крадзяжы. Злодзей узяты пад варту. Узбуджана крымінальная справа. Ідзе следства.

***Святаслаў КАЖАДУБ.***

● ПРОИСШЕСТВИЯ

## Что делал там мужчина?

Ранним утром 8 марта один из сотрудников милиции возвращался домой с дежурства. На крыльце гинекологического отделения роддома он увидел мужчину без верхней одежды — только рубашка, свитер, брюки. Человека доставили в больницу и уже там выяснилось, что у него закрытая черепно-мозговая травма, сотрясение мозга и проникающее ранение живота с повреждением печени. 35-летний герой, придя в себя, дал исчерпывающие показания, дескать, все ранения причинил себе сам. А милиция взяла да поверила...

***Галина СТРОЦКАЯ.***
***г. Барановичи.***

## Чарговае самагубства

Добраахвотна пайшоў з жыцця пенсіянер С. — жыхар г. Івацэвічы. Ён даўно пахаваў жонку, апошнім часам перабраўся жыць да знаёмай жанчыны. Ён павесіўся ў сваёй ранейшай кватэры, якая пуставала.

***Алесь САШЫН.***

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгёна па стану на 15.03.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1600—2300 | 1000—1500 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 1000 | 1300 | 1200 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—850 | 700—900 | 500—770 | 660—750 |
| Яйкі | 400—500 | 400—540 | 450—500 | 445—460 |
| Малако (3 л) | 250 | 280 | 270 | 260 |
| Тварог | 350 | 400 | 330 | 360 |
| Масла сметанк. | 1100 | 1500—1800 | 1200 | 1500 |
| Цыбуля рэпч. | 250 | 150—200 | 200 | 200 |
| Капуста | 80—100 | 80—120 | 150 | 90 |
| Бульба | — | 100 | 100—120 | 95—100 |
| Морква | 200 | 250 | 150 | 190 |
| Агуркі свеж. | 1300 | 1400 | 1200 | 1200 |
| Яблыкі | 300—480 | 440—540 | 400—430 | 400—460 |
| Памідоры | 1400 | 1300 | 1100 | — |
| Вінаград | 2500 | 2800 | 2900 | — |
| Грэцкія арэхі | 800—900 | 850 | 800 | 820 |
| Часнок | 1000 | 1300 | 1500 | 1200 |
| Лімоны | 1000 | 1000 | 1100 | 1100 |
| Апельсіны | 700—750 | 800—850 | 790 | 850 |
| Бананы | 700 | 820—850 | 790 | 850 |
| Мандарыны | 950—1000 | 920 | 990 | 960 |
| Грэчка | 600 | 580 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 270—400 | 300—350 | 280—350 | 270—300 |
| Рыс | 400—430 | 420 | 410—470 | 450—460 |
| Манныя крупы | — | 370 | 350 | 360 |
| Проса | 250 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 260 | 260—280 | 270 | 270 |
| Мёд | 2.400 | 2.400 | 2.500 | 2.400 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 880 | 900 | 875 | 900 | 880 | 900 | 870 | 920 |
| 1 дойчмарка | 440 | 450 | 420 | 450 | 440 | 450 | 440 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 |

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Скарочаны маршруты...

*— "Газета для вас"? Надрукуйце, калі ласка, падрабязную інфармацыю адносна скарачэння маршрутаў Івацэвіцкім аўтапаркам № 14. Якія канкрэтна скарочаны маршруты?*

*Віктар ГЕГЕНЯ (г. Івацэвічы).*

**На пытанне чытача адказвае Валянціна КАЛІНКА, інжынер аддзела эксплуатацыі Івацэвіцкага аўтапарка № 14:**

— З 1 сакавіка нашым аўтапаркам адменены наступныя маршруты:

Івацэвічы — Волька (серада, суб., панядз. — 13.30, пятн. — 13.30);
Івацэвічы — Югалін (панядз., серада, суб.);
Івацэвічы — Корачын (панядз., суб.);
Івацэвічы — Аброва (панядз., суб.);
Івацэвічы — Краі (панядз., пятн. — 5.10);
Івацэвічы — Ружаны (аўт., пятн.);
Івацэвічы — Галік (серада);
Івацэвічы — Косава (серада — 14.30, пятн. — 14.30, суб. — 14.30, нядз. — 14.30);
Івацэвічы — Була (чацв., суб., нядз.);
Івацэвічы — Вуглы (чацв.);
Івацэвічы — Гладышы (суб.);
Івацэвічы — Гошча (суб.);
Івацэвічы — Юрчыкі (суб. — 9.50, нядз. — 9.50);
Івацэвічы — Сенькавічы (нядз.);
Івацэвічы — Майск (нядз.);
Івацэвічы — Вулька-Аброўская (нядз.).

● СПОРТ

## Турнир по мини-футболу

С 11 по 28 марта на Пружанском стадионе проходит турнир по мини-футболу среди трудящейся и учащейся молодёжи. Данное столь популярное и полезное мероприятие было организовано районным комитетом БСМ и Пружанским отделом по ФСиТ. В соревнованиях принимают участие 10 команд. Однако необходимо заметить, что участвуют также команды местного РОВД и ветераны районного футбольного клуба. Так что юным футболистам из БСМ ("Каскад" и "Фортуна") предстоит нелегкая задача завоевать кубок чемпионов. С самого начала соревнований было замечено солидное количество болельщиков. И приятно радует, что большинство из них трезвые. Осталось только построить ледовый дворец.

*Евгений ВАЛЮКЕВИЧ.*

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ТАТЬЯНА, по гороскопу — Водолей. Люблю ходить на дискотеку, люблю большие мягкие игрушки. Из животных больше всех нравятся собаки. Мою, кстати, зовут Тузик.*

*С удовольствием слушаю самую разную музыку. В последнее время больше всего восточного певца Таркана. А еще мне нравятся конфеты "Минский грильяж".*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*ДЗМІТРЫЙ, па гараскопу — Вадалей. Вольны час праводжу ў спартыўнай зале, люблю заводзіць знаёмствы. Мой кумір — "Off Spirin".*

*Падабаюцца стройныя дзяўчаты, такія, якім бы я сам спадабаўся. Галоўнае, каб у дзяўчыны была шматабяцальная, чароўная, прывабная ўсмешка.*

● ПАВЕДАМЛЯЕ БелаПАН

# ДИЛЕТАНТЫ ПРОТИВ ДИЛЕТАНТОВ

***Содержание политического момента в Беларуси на сегодняшний день определяется подготовкой к предстоящим парламентским выборам. Несмотря на довлеющий договор о создании союзного государства, Беларусь мало-помалу вынуждена формировать собственное политическое пространство, приходится самостоятельно разбираться с общественно-политическими процессами в заданных рамках. А рамки как раз и определяются грядущими выборами — как парламентскими, так и президентскими. Так есть ли у белорусов выбор? Или они предпочтут вообще не появляться на избирательных участках, что, в свою очередь, явится благоприятным поводом для фальсификации результатов и консервирования ситуации на неопределенное время?***

На сегодняшний день мы имеем, с одной стороны, "народного самодержца" (и одновременно — зависимого от российской политической элиты правителя), с другой — оппозиционные партии (уже в количестве 9). И очень простую социологическую картину, отражающую в общем-то раскол в обществе. 25% поддерживают власть и желают вернуться в СССР, 25% выступают за перемены и против нынешнего руководства, 50% вообще затрудняются с определением своей перспективы (такой расклад дают опросы, проводимые НИСЭПИ). Или, по другим социологическим опросам (лаборатории НОВАК), около 45% по-прежнему будут голосовать за президента Лукашенко; соответственно, остальные отказываются от поддержки нынешнего порядка вещей. Но если в обществе такой раскол, почему он не отражается адекватно на политическом уровне? Более половины избирателей не будут голосовать за нынешнего президента, но при этом рейтинг оппозиционных политиков не выходит за пределы статистической ошибки. Более 1/3 опрашиваемых затрудняются ответить по поводу партийного предпочтения, а самая популярная в народе партия — женская "Надзея" — не набирает более 7%.

Обвинение белорусских оппозиционных политиков в дилетантизме уже стало общим местом, хотя и в кухонных дискуссиях. Известно, профессионализм политиков определяется постановкой целей и эффективным их достижением. В нашем же случае прежде всего бросается в глаза нежелание самостоятельно что-либо предпринимать для борьбы с "нелегитимным режимом", если не считать постоянных жалоб, рассчитанных на европейское сообщество. Понятно, что такие "политики" не будут пользоваться популярностью в массах. Они решают какие-то свои локальные задачи, мало понятные тем, кто является потенциальным избирателем действительно альтернативной силы. Что касается текущего момента, то до сих пор непонятно, что собирается делать оппозиция: договариваться о чем-то с властью (нелегитимной, заметьте, по версии оппозиции), участвовать в выборах, надеясь, как всегда, на "авось", выдвигать ультиматум президенту, выводить людей на улицу? Скорее всего, ждать "ветра перемен" с Запада. Больше всего оппозиционные лидеры хотели бы пойти на демократические выборы. Что при этом оппозиция понимает под "демократическими выборами", тоже не совсем ясно. В только формирующемся политическом пространстве можно наблюдать лишь жонглирование словами, смысл которых не понимается и не проясняется.

Например, как можно длительное время изображать подготовку к переговорам, заранее зная, что с этой властью подлинно демократической оппозиции договариваться не о чем? Вероятно, за этими переговорами о демократии стоит нечто другое, ценное для тех или иных оппозиционеров и скрываемое от общественного мнения. Скажем, торг по поводу мест в будущем парламенте.

Все оппозиционные партии (не исключая коммунистов) прекрасно понимают необходимость реформ в сторону либерализации и восстановления в правах частной собственности. Все (включая либералов-рыночников) согласны в том, что с государством еще долгое время придется считаться, а безоглядный либерализм приведет лишь к олигархическому правлению с той или иной степенью криминализации. Похоже, они боятся брать ответственность за подобное развитие событий. И это опять же минус для профессиональной карьеры политика, для которого принятие ответственности как раз и является признаком состоятельности. Далее, никто не спорит по поводу того, что нужно развивать частную инициативу и обеспечивать социальную защиту обездоленных, проводить рыночные реформы и при этом помнить о сохранении прав человека. Тем не менее, несмотря на общность понимания, оппозиция по-прежнему разобщена, раздроблена и, как следствие, вместо того чтобы решать политические задачи, занимается бесконечным объединением и разъединением.

Создается впечатление, что оппозиция вошла в ступор, невзирая на оптимистические обещания обеспечить "горячую весну-2000". Цели и выдвигаемые требования все более запутанны и нереальны. Если избирательный закон недемократичен, если он не обеспечивает требуемых условий участия в выборах, то кто же будет принимать демократичный закон, на основе которого народ изберет законодательный орган в результате "честных и справедливых выборов"? Как можно в здравом уме выбраться из подобной казуистики? Да еще при нелегитимном президенте, с которым и предлагается вести переговоры по поводу "честных и справедливых". Совершенно непонятно, каким образом в недемократической стране могут проходить выборы по канонам демократии?

Что предлагает Лукашенко — понятно почти половине избирателей. Какова альтернатива? Возврат к Конституции 1994 года, по которой и был избран нынешний президент (назад в будущее), к Верховному Совету, который Лукашенко догадался переименовать на более современный лад (поэтому о расширении полномочий такого парламента вести речь бессмысленно). Оппозиционеры до последнего готовы бороться за доступ к СМИ, прекрасно понимая, что пока существует монополия на информационное вещание, их появление на экране по большому счету не отразится на качестве и объективности этой самой информации. По сути, альтернативная программа внятно и отчетливо совсем не формулируется. Фундаментальные для будущего Беларуси проблемы — демократического выбора и государственности — просто всеми замалчиваются. Это какая-то общественная болезнь — заниматься малозначимыми вопросами (препирательство по поводу монополизированных СМИ, поездки на различные европейские форумы, "уличная демократия" с разрешения властей, против которых и выступают и т.п.), чтобы создавать видимость занятости, при этом не замечая воистину значимых проблем. Реформаторское ядро в оппозиции могли бы составить две партии — ОГП (как первая демократическая оппозиция) и ЛДП.

К потенциальным реформаторам можно отнести и социал-демократов, которые считают себя сторонниками европейского выбора, поскольку им нравится образ жизни западных социал-демократов. В целом вся их деятельность и сводится к тому, что лидеры активно знакомятся с опытом европейских социал-демократий за их же счет. Поэтому и рейтинг в родном отечестве почти не отличается от статистической ошибки. Однако социал-демократы имеют один существенный ресурс — социальную базу, которую обеспечивают профсоюзы и возникшие на их основе Партия труда Бухвостова и женская — "Надзея". Остаются еще коммунисты — самый организованный и сплоченный отряд оппозиции, правда, с учетом того факта, что он не принимает участия ни в одной совместной акции. ПКБ во главе с Сергеем Калякиным, пожалуй, можно было бы отнести к реформаторскому крылу бывшего монополиста у власти. При благоприятном стечении обстоятельств белорусские коммунисты составят вполне конструктивную оппозицию "реформаторам-рыночникам". А пока они проявляют активность только при упоминании о переговорном процессе. Хотя Калякин по своим убеждениям, возможно, и социал-демократ, но электорат у него коммунистический, т.е. те, которые выбирают закрытый порядок. И не следует питать на этот счет иллюзий.

По большому счету, нынешнему белорусскому электорату все равно, консерваторы у власти или либералы, много у нас государства или мало. Избирателей интересуют житейские вещи: работа, зарплата, цены и наличие товаров, здоровье свое и детей, возможность увидеть мир и т. д. Нынешние власти доказывают свою несостоятельность и некомпетентность в управлении общественно-политическими процессами. Это видно невооруженным взглядом. Но ведь и оппозиционные лидеры демонстрируют то же самое! Ведь они даже 20 тысяч своих сторонников (не говоря уже о заявляемых 100 тысячах) не могут довести до заветной точки оппозиционных акций — площади Независимости.

Так есть ли у белорусов выбор на предстоящих парламентских выборах?

*Стефания КАЛИНОВСКАЯ.*



● ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# МОЖЕТ ЛИ ХВОСТ ВИЛЯТЬ СОБАКОЙ?

*Политическая жизнь — это, конечно, не только подписанные декреты, заявления, меморандумы. Это ещё и, скажем так, предания, которыми время от времени откровенно "кормит" нас преданная кому-то публика и на что тонко намекают служащие своему герою СМИ. Согласитесь, уважаемый читатель, к российскому венцу нашего президента примеряли и друзья его, и враги его. Сказывали даже о том, что Александр Григорьевич пользуется в России такой неслыханной популярностью, что стоит ему закинуть предвыборное словцо на бескрайних российских просторах, как "тамтэйшы" избиратель, спотыкаясь и падая, помчится, как ветер, к избирательным урнам.*

*Правда, независимые опросы в России свидетельствовали всегда об ином. Например, о том, что рейтинг у А. Лукашенко не выше, чем у ведущего передачи "Поле чудес" Л. Якубовича. Попробуем же сегодня прояснить смысл и значение тех потуг, которые предпринимало руководство РБ и его поборники по завоеванию российских умов и сердец.*

Так, не раз доводилось слышать, что ныне как-то подзабытые поездки белорусского президента в российские регионы сопровождались каким-то особенным экстазом местных жителей. Сказывали, что люди, заслышав голос Александра Григорьевича, бросали кто штурвал, кто руль и мчались слушать мудрствования славянского брата. Правда, никто не говорил о том, насколько завидуют россияне нам с вами: мы-то к выступлениям всенародного любимчика привыкли, как к шуму ветра в проводах.

Большие потуги Александра Григорьевича образумить и наставить на путь истинный руководство России всё же были. "Да не кланяйтесь вы перед этой мадам!" — советовал он министру иностранных дел России И. Иванову, очевидно, не догадываясь, что хорошо испытанный им на селекторных совещаниях принцип общения (барин — холоп, начальник — дурак) чисто белорусское изобретение. А в международной политике, о которой белорусский президент, видно, забыл ввиду длительной международной изоляции, это и вовсе нонсенс. Потому и отмежевался от этого высокопарного, но, скажем так, пустого и не по адресу заявления российский министр, парировавший, что, мол-де, не знает какого Иванова имеет ввиду Лукашенко, в России Ивановых много.

Кстати, мало кто обращает внимание на то, что сами российские руководители, не взирая на сумбурную и спонтанную внешнюю и внутреннюю политику руководства РБ, которую весь мир не может истолковать, никогда не поучают президента РБ, где и как выступать, что говорить. Из чувства такта, разумеется. Там знают, что это такое.

И, вообще, давайте попробуем объяснить мотивы тяготения Беларуси к России более прозаическими причинами. Кем была бы сегодня Беларусь, не будь у неё такой огромной и значительной соседки? Оно, конечно, жаль, что ядерное оружие пришлось вывести с территории РБ, но зато сегодня можно, образно говоря, подержаться за штаны того, кто этой ядерной дубинкой владеет.

Говорят, что фактор объединения используют в своих целях российские политики. Но и Беларусь своим "знакомством" пользуется, скажем так, на все сто.

Конечно, Россией особо не порулишь, но можно влезть, образно говоря, в обнимки, втереться в компанию и, если не поруководить (сегодня уже все, думается, поняли, что белорусскому президенту в России не "светило" и не "светит"), то под общий шумок сделаться значительной фигурой, взобраться благодаря чужой мощи (Россия всегда была и будет великой страной) на значительные высоты.

ххх

Точно также Паук в басни дедушки Крылова, зацепившись за хвост Орла, залетел на самый верх Кавказских гор.

Орел же возблагодарил Бога за то, что, управляя светом, Бог "...рассудил снабдить меня таким полётом" и "...что неприступной я не знаю высоты и что смотрю оттоль на мира красоты".

На что Паук сделал Орлу замечание, что онде хвастун, что не один он может так высоко летать: "...я без тебя умею здесь держаться и так передо мной прошу не величаться". Орел, изумленный, не успел и ответить, ибо "...вихрь отколе ни возьмись и сдунул Паука опять на самый низ".

Точно также белорусское руководство, уцепившись в хвост великой России, дружбой с ядерной державой пытается всему миру доказать свою значимость. А вызывает то равнодушие, то отвращение. И безжалостна та часть морали, которую предлагаем сегодня читателю:

...Тащатся вверх,  
держась за хвост  
вельможи;  
А надувают грудь,  
Как будто б силою их  
Бог снабдил орлиной:  
Хоть стоит ветру  
лишь пахнуть,  
Чтоб их унесть  
и с паутиной.

***Александр ГОРБАЧ.***  
***г. Ивацевичи.***

● ГОЛАС НАРОДА

# Выбары ў Расіі: хто з кандыдатаў вам сімпатычны?

***Набліжаюцца прэзідэнцкія выбары ў Расіі, і ўсё больш і больш сродкі масавай інфармацыі ўдзяляюць увагу тым кандыдатам, з ліку якіх у хуткім часе будзе абраны кіраўнік нашай усходняй суседкі. З-за таго, што расійскія каналы ў нас надзвычай папулярныя, наш сярэднестатычны тэлеаматар не горш ведае пра падзеі ў Расіі, чым пра падзеі на Беларусі. Да таго ж мы з Расіяй знаходзімся ў адзіным саюзе, няхай яшчэ пакуль толькі на паперы. Таму мы і пацікавіліся ў выпадкова сустрэтых намі прахожых на вул. Камсамольскай, што ў г. Івацэвічы — які з кандыдатаў у прэзідэнты Расіі вам найбольш сімпатычны?***



**Мікалай, прадпрымальнік:** Шчыра кажучы, я аб гэтым не задумваўся. Але, хутчэй за ўсё, галасаваў бы за У. Пуціна. Астатнія — малавядомыя асобы. Камуністы ж паступова адыходзяць. За іх будуць толькі пенсіянеры, напэўна, галасаваць. З другога боку — У. Пуцін асацыіруецца з вайной. Чачня ж разгромлена. Насельніцтва, што б там ні гаварылі, пакутуе. Страх!

**Ларыса Аляксандраўна, настаўніца:** Больш за ўсіх мне падабаецца У. Пуцін. Ён найбольш вядомы, рашучы і ў той жа час прадказальны. За яго б я абавязкова прагаласавала. Астатнія кандыдаты мне не вельмі падабаюцца. Хіба што Р. Яўлінскі.



**Віця, рабочы:** Я — чалавек апалітычны, мала цікаўлюся тым, што адбываецца ў палітыцы Беларусі ці Расіі. Але думаю, што галасаваць трэба за таго, хто эканоміку падымае, а не ваюе...

Ведаеце, вельмі засмучае тое, што эканоміка адсунута на задні план.

**Валянціна, супрацоўніца РТМА:** Толькі не за Зюганава. Мы ўжо гэта, так бы мовіць, праходзілі. Можа за Р. Яўлінскага?

Што тычыцца У. Пуціна, то яго палітыка мне не зусім зразумелая. Вельмі яна жорсткая. Разграмілі Чачню, каменя на камені там не пакінулі, а яшчэ і хваліцца. Я б аддала свой голас за Р. Яўлінскага.

***У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ,***  
***Аляксей ГАНЧУК (фота).***

● ЗА І СУПРАЦЬ

# Правоў больш у таго, у каго — улада...

***Сёння нашым двум, дарэчы, маладым удзельнікам дыскусіі прапануюцца пытанні, у якіх, так бы мовіць, зусім розная тэрміновасць. Пра сітуацыю з правамі чалавека ў РБ гавораць ва ўсім свеце даўно і, трэба лічыць, небеспадстаўна. Іншая сітуацыя з той падзеяй, якая ў бягучым месяцы павінна адбыцца ў нашай усходняй суседкі — Расіі. Такім чынам нашым апанентам сёння прапануюцца наступныя пытанні.***

***1. Правы чалавека на Беларусі: ці ёсць парушэнні?***

***2. Выбары прэзідэнта Расіі. Які вынік аптымальны для Беларусі?***

## Прычын для хвалявання няма

1. Лічу, што прычын для хвалявання, калі гаварыць пра стан спраў з правамі чалавека на Беларусі, няма. Хоць, згаджуся, не могуць не быць нейкія адзінкавыя выпадкі парушэнняў.

Думаю, што значная частка нашага грамадства мала цікавіцца гэтай тэмай. Людзей цікавяць больш злабадзённыя тэмы: заробкі, пенсіі, цэны. У гэтым сэнсе дзяржава робіць што можа, хоць, канешне, шкада, што тыя заробкі і пенсіі не такія і вялікія.

Не зусім правільным лічу вельмі ўжо негатыўнае стаўленне кіраўнікоў некаторых краін да нашай рэспублікі ў сувязі з тымі ж правамі чалавека. У нас жа больш-менш спакойна, няма вайны, бежанцаў, галодных ці параненых.

Лічу, што падыход да нашай рэспублікі тэндэнцыйны. У свеце вельмі шмат дзяржаў, дзе сітуацыя з тымі ж правамі чалавека яшчэ складанейшая, чым у нас.

2. Можна па-рознаму характарызаваць кандыдатаў на пост прэзідэнта Расіі, але, лічу, сапраўдны і адзіны прэтэндэнт там У. Пуцін. Думаецца, што яму перавагу аддаюць яшчэ і таму, што ён — малады палітык, адукаваны і энергічны. Тым больш, што многія рэйтынгі гавораць аб тым, што гэты палітык можа атрымаць перамогу ў першым жа туры.

Прысутнасць у палітыцы "аксакалаў" не самае лепшае, што можа быць. Падобна, што гэта зразумелі і ў Расіі. Наша жыццё мяняецца, патрэбны і палітыкі больш гнуткія, якія не маюць тых прынцыпаў і стэрэатыпаў, якімі забіта галава ў палітыкаў, што прыйшлі ці засталіся ў той жа Расіі з мінулых часоў.

***Алена КАЛЯДА,***  
***другі сакратар***  
***раённага камітэта***  
***БПСМ, г. Пружаны.***

## На Беларусі парушаюцца правы чалавека

1. Правы чалавека ў нас, безумоўна, парушаюцца. Кожны дзень мы сутыкаемся з гэтым. Мабыць, гэта звязана з тым, што краіна зусім нядаўна стала незалежнай.

Вось, калі ласка, адзін з прыкладаў. У Пружанах сярод белага дня невядомыя, як потым высветлілася, супрацоўнікі РАУС, прымяніўшы фізічнае ўздзеянне, не прадставіўшы дакументаў, затрымалі памочніка дэпутата парламента РБ У. Радзівончыка. Як потым высветлілася, прычынай паслужыла нез'яўленне У. Радзівончыка па павестцы ў ваенкамат, якую прысылалі на адрас, дзе памочнік дэпутата ўвогуле не жыў. Згадзіцеся, што такія метады больш напамінаюць 1937, а не 2000 год.

Вельмі непрыгожа атрымліваецца, калі гаварыць пра допуск апазіцыі да электронных СМІ. Выступленне прадстаўніка апазіцыі па БТ ці Беларускім радыё — сёння амаль фантастыка. І ўсе гэта бачаць, і робяць выгляд, што нічога не адбываецца.

2. Самы аптымальны вынік для дэмакратычных сіл Беларусі — перамога Р. Яўлінскага. Хаця можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ні адзін з расійскіх кандыдатаў у прэзідэнты не можа гарантаваць захаванне незалежнасці Беларусі.

Але хутчэй за ўсё пераможа У. Пуцін. І папулярнасць яго, на мой погляд, лёгка патлумачыць. Каб не было б вайны ў Чачні, то не было б і У. Пуціна. Шматлікія ахвяры, кроў, разгромленая Чачня, знішчаныя яе гарады і сёлы, а расіяне ў адзін голас ад абароне Расіі талдычаць, ордэны вешаюць генералам. Сорамна і страшна на ўсё гэта глядзець!

***Яўген***  
***ВАЛЮКЕВІЧ,***  
***старшыня***  
***маладзёжнай***  
***арганізацыі***  
***"Грамадзянскі***  
***форум",***  
***г. Пружаны.***

## Нас папярэджваюць

Злучаныя Штаты Амерыкі спадзяюцца, што ў Беларусі распачнецца сапраўдны дыялог паміж уладамі і дэмакратычнай апазіцыяй, які дапаможа вырашыць канстытуцыйны і палітычны крызіс у краіне і выведзе Беларусь з ізаляцыі, якую змушаны былі ўвесці дэмакратычныя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Аб гэтым гаворыцца ў заяве Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, з якой выступіў прэс-сакратар Джэймс Рубін.

Каб гарантаваць пазітыўныя вынікі, ЗША заклікаюць беларускія ўлады стварыць для дыялога спрыяльныя ўмовы, спыніўшы пераслед апазіцыянераў і няўрадавых арганізацый, і адмовіцца ад спроб закрываць незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Дзярждэпартамент ЗША таксама падкрэслівае важную ролю, якую мусяць адыграць у працэсе дыялога Кансультацыйна-назіральная група АБСЕ ў Мінску і дэмакратычная апазіцыя. "Адсутнасць такіх крокаў прывядзе да сімуляцыі дыялога, нелегітымных парламенцкіх выбараў, і яшчэ больш палярызуе беларускае грамадства і паглыбіць ізаляцыю краіны ад дэмакратычнай Еўропы", — гаворыцца ў заяве Д. Рубіна.

***(БелаПАН).***

